Кніга выдадзена рупнасцю дзяцей, унукаў і праўнукаў
Пятра Навумавіча Дабрыяна

Упершыню пад адну вокладку сабраны вершы розных гадоў заходнебеларускага паэта са Слонімшчына Алеся Сучка (Пятра Навумавіча Дабрыяна) (1916-1993).

**Паэт, якому заўсёды хацелася шчасця**

Яго не стала раптоўна, хоць нічым не хварэў і не скардзіўся на хваробы. Жыць бы яму ды жыць... У той дзень, 27 жніўня 1993 года, калі паэт Алесь Сучок (Пётр Навумавіч Дабрыян) ляжаў на аперацыйным стале ў Слонімскай бальніцы, па тэлебачанні ўпершыню паказвалі пра яго дакументальны фільм, які падрыхтаваў Юрка Голуб на Гродзенскім тэлебачанні. Цудоўны фільм, шчыры і светлы, якім быў і сам Пятро Навумавіч. Ён паспеў папярэдзіць усіх сваіх сваякоў, сяброў, аднавяскоўцаў аб тым, што будуць “яго паказваць па тэлевізары”. Але больш за ўсё чакаў гэтай перадачы ён сам. Чакаў, але на жаль, так і не ўбачыў сябе на тэлеэкране. У гэты дзень паэта Алеся Сучка не стала.

Апусцела, асірацела хата ў вёсцы Азярніца на Слонімшчыне. У ёй шмат гадоў жыў гэты энергічны, рухавы, вясёлы і добры чалавек. Я часта гасцяваў у Пятра Навумавіча Дабрыяна. Ён шмат мне распавядаў пра гісторыю навакольных вёсак, пра лёсы яго аднавяскоўцаў. Бывала мы з ім ішлі да Бяздоннага возера, якое знаходзіцца побач з Азярніцай. “Люблю гэтыя мясціны, — казаў Пятро Навумавіч. — Памятаеш, як пісаў пра іх Уладзімір Караткевіч у сваім рамане “Хрыстос прызямліўся ў Гародні”: “Пад вечар мы прыйшлі з ім на бераг Бяздоннага возера пад Слонімам і тут вырашылі начаваць. Возера было ўсё празрыста-чырвонае, гладкае, як люстра. І лясы вакол яго былі таксама зялёна-аранжавыя...”.

Побач з Бяздонным возерам знаходзіцца ўнікальны старажытна-славянскі могільнік V-IX стагоддзяў. А недалёка — вёска Збочна, радзіма беларускага паэта, празаіка і дзіцячага драматурга Кандрата Лейкі (1860-1921). Гэтыя мясціны добра ведаў Алесь Сучок, бо амаль усё жыццё было звязана з імі.

Нарадзіўся Пётр Дабрыян 7 кастрычніка 1916 года ў вёсцы Ахматава Алатырскага раёна Чувашыі, дзе бацькі знаходзіліся ў бежанстве. У 1922 годзе разам з бацькамі вярнуўся дамоў у вёску Какошчычы Слонімскага павета. На радзіме пайшоў у першы клас Мяльканавіцкай польскай школы. Вясной 1932 года ўступіў у нелегальную піянерскую арганізацыю, а праз год яго выбіраюць сакратаром Слонімскага падпольнага райкама піянераў.

Аднойчы пасля вечарынкі ў вёсцы Мяльканавічы Пятро Дабрыян папрасіў застацца сваіх юных сяброў у хаце. “Нам патрэбна навучанне на беларускай мове, — палымяна казаў Пятро. — Трэба падрыхтаваць забастоўку вучняў, каб адкрыць такую школу...”.

Юныя змагары горача ўзяліся за справу. За некалькі тыдняў размножылі на шапірографе больш за дзвесце пракламацый. 16 студзеня 1934 года дзеці прыйшлі ў школу і заявілі дырэктару Вішнеўскаму, што жадаюць вучыцца на роднай мове. Для Вішнеўскага гэта быў гром з яснага неба. Ачомаўшыся ад нечаканасці, ён са злосці кінуў: “Ніколі гэтага не будзе!”. Тады школьнікі выйшлі на вуліцу і разгарнулі транспарант са словамі: ”Патрабуем школы на роднай мове!”. Больш за дзвесце вучняў прайшлі па вуліцах вёскі Мялькнавічы, раскідваючы лістоўкі з такім жа зместам.

Праз некаторы час Пятра Дабрыяна арыштавала паліцыя, а ў верасні 1935 года буржуазны акруговы суд прыгаварыў яго да чатырох гадоў турэмнага зняволення. Адбываў зняволенне ў Картуз-Бярозе.

Але да Картуз-Бярозы была яшчэ турма ў Слоніме. Там ён і пачаў пісаць свае першыя вершы. “Паперы і алоўка мець у камеры адміністрацыя не дазваляла. Але я ўхітрыўся... Пісаў алюмініевай лыжкай на сцяне...”, — распавядаў Пятро Навумавіч. А калі юнак выйшаў на волю, пачаў адсылаў вершы ў Вільню. А каб схавацца ад праследаванняў, падпісваўся псеўданімам Алесь Сучок.

У 1938 годзе віленскі часопіс “Шлях моладзі” упершыню змясціў яго верш “Я бачыў”. А праз год той жа часопіс друкуе новыя вершы Алеся Сучка “Зіма”, “Мне ахвота”, “Вясна, вясна, прыйдзі хутчэй”. У простай і непасрэднай форме, выкарыстоўваючы традыцыйныя вобразы вясны, сонца, вольнай птушкі, паэт услаўляў свабоду. Ён пісаў пра жыццё вясковага бедняка, пра сялянскага хлопца-бунтара, які сядзіць у турме. Герой твораў заходнебеларускага паэта быў моцны і рашучы чалавек, які верыў у сілы народа:

Мы здабудзем перамогу,
Бо за намі ўвесь народ.
Падымайма ўжо трывогу,
Смела пойдзем у паход.

Сёння вершы Алеся Сучка, напісаныя ў 1930-х гадах, маюць перш за ўсё літаратурна-гістарычную цікавасць. Іх агульны пафас — стваральны, сугучны нашым пераўтварэнням. Гэта вершы-заклікі, вершы-лозунгі. Паэт-змагар вучыўся майстэрству ў Валянціна Таўлая, Міхася Васілька, Максіма Танка, Анатоля Іверса і ў іншых паэтаў Заходняй Беларусі.

Перад Другой сусветнай вайной Пятро Дабрыян працаваў літработнікам слонімскай раённай газеты “Вольная праца”. З рэдакцыі яго прызвалі ў армію. Вайна захапіла юнака каля Гродна.

Адтуль ён прабраўся на акупіраваную немцамі Слонімшчыну. Былыя падпольшчыкі і равеснікі Заходняй Беларусі шукалі адзін аднаго. Пятро Дабрыян скантактаваўся з сакратаром Слонімскага раённага падпольнага антыфашысцкага камітэта Феакцістам Міско. Ён, асуджаны на 12 гадоў судом Польшчы, уцёк з турмы горада Грудзёндза, калі гітлераўцы напалі на Савецкі Саюз. Гэта быў сапраўдны старэйшы сябра і дарадца.

У лютым 1942 года Пётр Дабрыян быў выбраны сакратаром моладзевай падпольнай антыфашысцкай арганізацыі Какошчыцкага падраёна. Але з адступленнем немцаў, яго забралі на фронт, давялося служыць у кавалерыйскім палку, дывізіёне баявога забяспячэння кавалерыйскай школы…

Дамоў Пятро Дабрыян вярнуўся вясной 1946 года. Працаваў на гаспадарцы, потым загадчыкам вясковага клуба, старшынёй сельскага савета, стрэлачнікам на станцыі Азярніца. Калі быў вольны час — пісаў вершы, дасылаў допісы пра вясковае жыццё ў мясцовы друк. Уладзімір Калеснік у кнізе “Сцягі і паходні” (Мн., 1965) адзначыў: “Мастацкая вартасць прыкметна паблекла ў смузе часу, але для гісторыі літаратуры такія рэчы, як, напрыклад, вершы Алеся Сучка (Пятра Навумавіча Дабрыяна), маюць сваё значэнне, іх нельга выкінуць, як слова з песні”.

Пятро Навумавіч Дабрыян быў вельмі актыўным чалавекам, ён паспяваў усюды: на пасяджэнне раённага літаб’яднання, на сустрэчы з вучнямі і настаўнікамі, да сяброў у госці, заўсёды шчыра адгукаўся на бяду, дапамагаў і справай, і словам. Ён прымаў актыўны ўдзел у рабоце раённага хору ветэранаў вайны і працы “Памяць”. А як ён хораша, цудоўна спяваў! Спяваў “Зорку Венеру” Максіма Багдановіча, “Цячэ і стогне Днепр шырокі…”, беларускія народныя песні. Я яго заўсёды прасіў, што-небудзь праспяваць. І ён спяваў з радасцю. Ён умеў чытаць свае вершы, чытаў, як артыст. Ён жыў музыкай, паэзіяй, у вершах была і засталася яго біяграфія, яго хваляванні, радасці і трывога:

Прайшоў я з мовай праз пакуты,
Праз дзікі здзек былых паноў.
Не раз кайданамі быў скуты,
Не раз цярпеў боль бізуноў.
Але ад мовы не адрокся:
Я з ёю сеяў і касіў…
Сваю любоў да роднай мовы
Заўжды у сэрцы я насіў.

Алесь Сучок ніколі не мецiў у вялікія паэты, ды й пра гэта не думаў. Жывучы ў вёсцы, ён дасылаў свае творы ў раённы і абласны друк. І радаваўся кожнай публікацыі. Вершы яго друкаваліся таксама ў зборніках “Сцягі і паходні” (Мн., 1965), “Ростані волі” (Мн., 1990), “Золак над Шчарай” (Слонім, 1994). Яго бясхітрасныя радкі напоўнены шчырасцю, адкрытасцю і даверлівасцю:

Як жаўрука пачую спеў,
У захапленні стану:
Так прывітацца б з ім хацеў —
Рукою не дастану.

Калі мне бывала сумна і надакучвала гарадская мітусня, я ехаў да яго ў Азярніцу. Ён радаваўся сустрэчы. Ён любіў людзей і любіў жыць, яму заўсёды хацелася шчасця. Памятаю, у 1990-х гадах, калі быў дэфіцыт мэблі, ён, як ветэран вайны, купіў у вясковай краме для мяне кніжную шафу. Потым мы дваіх яе з крамы ледзьве прывалаклі дахаты Пятра Навумавіча. А калі прынеслі, то ён мне пажадаў, каб я напісаў і выдаў столькі добрых кніг, каб былі запоўненыя ўсе паліцы гэтай шафы. Тая азярніцкая мэбля і цяпер стаіць у маім пакоі гарадской кватэры. На яе паліцах месцяцца не толькі мае кнігі, але і кнігі іншых беларускіх пісьменнікаў і гісторыкаў. А цяпер на паліцах шафы будзе месціцца і паэтычны зборнічак Алеся Сучка “Захацелася шчасця” — як успамін пра шчырага паэта і добрага чалавека.

*Сяргей ЧЫГРЫН*

## Мне ахвота

Мне ахвота пяяць і смяяцца,
Мне ахвота званамі звінець.
Мне ахвота і з рыфмай зліваццa,
Мне ахвота агнём палымнець.
Мне ахвота ў тонах працяжных
Песні пець, каб ляцець у прастор.
І ў рыфмах вясёлых, адважных,
Выліць сілу, юнацкі задор.
Мне ахвота, каб дрэвы шумелі,
А іх шум разгадаць і паняць.
І, каб громы магутна грымелі,
Цемру ночы маглі разагнаць.
Мне ахвота, каб наша краіна,
Дарагая ўставала ад сну,
Каб яна свае песні спявала
Аратаю — свайму гаруну.
Гаруну, што аратым завецца,
Што на полі працуе, як вол.
У сярмягу-рызман адзяецца,
Род выводзіць свой з вёсак і сёл.
1938

**Вясна**

Вясна, вясна, прыйдзі хутчэй!
Сагрэй ты сонцам зямлі гладзь,
Яму пара свяціць ярчэй
І мілы кінуць скрозь пагляд.
Пара табе, красуня-цуд,
Прыроду убіраць.
І над зімой, зрабіўшы суд,
Яе далей ад нас прагнаць.
Ўжо птушкі з выраю лятуць
Здалёк да нас у родны край,
І па-вясноваму пяюць,
Зірні, вясна, іх прывітай.
Укрась сады у белы цвет,
Накрый зялёнасцю лугі,
Няхай смяецца цэлы свет,
Скідае чар зімы, тугі.

1938

**Я бачыў**

Я бачыў — усходзіла сонца,
З-за горкі зіхцела яно,
І, яснае пекна бясконца
Свяціла й свяціла ў акно.
І песцілі душу праменні,
У сэрца мне сілы лілі,
У думках ўставалі імкненні —
За сонцам плылілі і плылі…
1938

**Калыханка**

Спі, мой сынку, спі, маленькі,
Годзі слёзы ліць!
Спяю табе, даражэнькі,
Як нам цяжка жыць.
Як над намі з бізунамі
Чужынцы стаяць.
Называющца панамі,
Кажуць нам маўчаць.
Хто з адвагаю і сілай
Супраць іх ўстае,
Каб старонцы нашай мілай
Даць правы свае, —
Яго хутка забіраюць,
Куюць ў кайданы,
У сыры астрог саджаюць
Лютыя паны.

1938

## Новы, 1938 год

Здароў, новы, мілы годзе!
К нам ты едзеш пры нагодзе.
Едзеш ты да нас у санях
Па іскрыстых снежных раннях.
—Што вязеш ты нам з сабою
Ў белай торбе за спіною?
Ці там ёсць свабоды цуд,
Да якой імкнецца люд?
Нам няволя надаела,
Свету, шчасця захацелась,
Каб жыць вольна, не знаць мукі,
Без паноў, што куюць рукі.

1938

## У Картуз-Бярозе

Закрылася цяжкая брама,
Закрыўся за ёю і свет.
Бывай, мая любая мама,
І ты, Лёня, лепшы сусед.
Адсюль, мабыць, выйду не скора,
Каб з вамі сустрэчу гуляць.
Няволю, катаргай зморац
І буду яшчэ катаваць.
Не плачце, што цяжкая доля
Мяне напаткала ў жыцці.
Не страшны мне мукі і болі,
Іх з гонарам буду нясці.
І выстаяць хопіць мне сілы
Ў грудзях маіх маладых.
Хай каты загоняць ў магілу —
Ідэй не зракуся сваіх…

1939

## Ой ты, маці, не сумуй

Ой ты, маці, не сумуй
Па сваім дзіцяці,
Што вядуць яго ў турму
Лета гараваці.
Ведай цвёрда: сын прыйдзе,
Век ў турме не будзе,
Ён змагаўся за людзей,
За свабоду людзям.
Не баіцца ён паноў,
Ні турэмных кратаў,
Ні сталёвых кайданоў,
Ні фашыстаў-катаў.

1939

## У дэфе[1]

Шалёная зграя наймітаў,
Вы хочаце здрады маёй.
Не выдам для вас барацьбітаў,
Што крочаць ў змаганні са мной.
Хай ў лёхах я цёмных сканаю,
Ды ведаю цвёрда — за што,
Бо сцяг наш змагання хаваю,
А дзе — вам не зведаць таго.
Хай сэрца парвецца ў кавалкі,
Тады перастану я жыць.
Не змогуць гумовыя палкі
Мяне, змагара, застрашыць.
Дарэмныя вашы намеры:
Фізічна, духова зламаць.
Даўно ў перамогу я веру,
І веры вам той не адняць.
1939

[1] Дэфа — дэфензіва, палітычная паліцыя ў 1930-х гадах Польшчы.

## Прыйшла пара

Прыйшла пара чаканая,
Свабодны мой народ.
Старонка катаваная,
Вітай чырвоны ўсход.
Вітай жыццё свабоднае,
Што нам нясуць браты,
Не будзе больш галоднае
Па вёсках беднаты.
Ад пана-прыгнятальніка
Навекі след пагас,
Няма нідзе абшарніка,
Які век мучаў нас.
Прайшлі калонай смелаю
Адважныя байцы.
Аджытаму, ўстарэламу
Навек кладуць канцы.
І мова наша родная
На ніве веснавой
Ўстае к жыццю свабодная
З няволі векавой.

1939

**Брату**

У Гдыні ёсць магілаў шмат,
Ды толькі я не адшукаю,
Ў якой з іх пахаваны брат,
Што тут палёг за шчасце краю.
Я абышоў усе рады,
І кожны ўзгорачак адведаў.
Гады не згладзілі сляды
Усіх трывог людскіх і бедаў.
Я пакланіўся нізка ўсім,
Хто тут ляжыць, адпачывае:
І пажылым, і маладым,
Каго наш край не забывае.
Ну, а табе, мой родны брат,
Хоць не знайшоў твае магілы,
Я да зямлі прыпасці рад,
Што біў фашыстаў колькі сілы!
1945

## Жаўрук

Глыбока ў сіняй вышыні
Дрыжыць, разняўшы крылы,
А галасок яго звініць,
І радасны, і мілы.
Вяснянка-песня цэлы дзень
Ў чароўных пералівах,
Плыве над нівамі, плыве
Пад гоман рэк шумлівых.
Як жаўрука пачую спеў,
У захапленні стану:
Так прывітацца б з ім хацеў —
Рукою не дастану.

1960

***

Куды вачыма не зірні, —
Мне да драбніц усё знаёма,
Дзе поіць рэчка альшыну,
Дзе сад цвіце пры кожным доме.
І дарагімі сталі мне
Усе сцяжыны палявыя,
Прытулак буслаў на гумне,
І тыя ліпы векавыя.
Гудуць машыны на палях,
Ім падпявае вольны вецер…
Які шырокі ў нас прасцяг,
Няма такога ў цэлым свеце.

1962

**Сонца**

Многа сонцаў у сусвеце ёсць,
А грэе нас толькі адно,
Якое дае нам жыццё, маладосць,
І з ласкай глядзіць у вакно.
1964

***

Раса густая на траве
Блішчыць крыштальнаю слязою,
Пераліваецца, заве
Хутчэй пайсці на луг з касою.
І там на ўлонні траў густых
Паслухаць, як вятры гамоняць.
Як у адказ шумяць лісты
І салаўі над рэчкай звоняць.
Ад сэрца хочацца сказаць
На нашай простай роднай мове:
Паклон вам нізкі, сенажаць,
Бярозкі і дубкі ў дуброве.
1970

**Аб чым курлычуць журавы**

Пачуй, як стогнуць журавы,
У іх цяпер цяжкое гора,
Бо пакідаюць паплавы —
Радзіму з лугам, касагорам.
А мо курлыкаюць аб тым,
Што восень ім не дорыць ласкі,
Што пералёт будзе цяжкім
Да новых селішчаў, папаскі.
Глядзіш, праводзіш іх вачмі,
Як шнур знікае у тумане,
Змаўкае крык іх на зямлі
І ў паднябесным акіяне…

1972

## Цішыня летняй ночы

Я люблю цішыню летняй ночы,
Калі неба над намі без хмар,
Калі зоркі расплюшчваюць вочы,
Серабром заліваюць абшар.
Сад стаіўся, маўчыць нерухома,
Анямелі лісткі на галлі.
Ўсё заснула ад дзённае стомы,
Толькі звонка пяюць салаўі.
Яркі золак нам сонцам прарочыць
І туман паднімае з нізін…
Няхай кветкі расплюшчвюць вочы,
Разгараецца чырвань вяргінь.

1972

**Напрадвесні**

Узнімайся, сонца, вышай
Над прасторам родных ніў.
Каб у поле трактар выйшаў,
Ў баразне загаманіў.
Памажы рачулкам, рэкам
Растапіць на спінах лёд.
Каб шумелі яны рэхам,
Атрымаўшы вольны ход.
Ажыві лугі і нівы,
Дай ім сілу каб цвілі.
Хай жыццё бурліць шчасліва
На усёй маёй зямлі.

1972

**Маладосць**

Праляцела яна, нібы птушка,
Толькі, помню, махнула крылом,
Не хадзіў я дарогаю вузкаю,
А ўрываўся ў жыццё напралом.
Адышла ў далячынь, не спытала,
Дзе правёў я юнацтва гады,
Хлеба, солі тады не хапала,
Мала сонца я бачыў тады.
Ды за тое пакінула сілу,
Што патрэбна была ў барацьбе,
І турму, і канцлагер асіліў...
І за гэта я ўдзячны табе.
1973

**Радзіма**

Куды б ні паехаў,
Куды б ні пайшоў,
Радзіма вярнуцца
Назад заклікае.
Святлейшых крыніц
Я нідзе не знайшоў,
Гаючай вады,
Што ўсю смагу здымае.
Я вырас, як колас
На роднай зямлі,
Тут вывучыў першыя
Словы і песні.
Таму і віхуры
Мяне не змаглі
Закінуць далёка
Ад хаты і весніц.
Тут радасць пульсуе
Навокал мяне,
Куды толькі вокам
Сваім не пагляну.
Крыштальная рэчка
Плыве ў альшыне,
Выходзяць ласі
На лясную паляну.
Гудуць трактары
На прасторных палях,
Зярняты ўзнімаюць
Зялёныя струны.
Радзіма ўзышла
На шырокі свой шлях,
І выбрала светлы
І просты кірунак.

1973

**З песняй у дружбе**

Сядзець цішком я не магу,
Таму заўсёды з песняй ў дружбе.
Іду я з ёю у нагу
На адпачынку і на службе.
Яна ўздымае мой настрой,
Дае мне сілу і натхненне.
Таму я з песняй баявой
Іду ў жыццё, як ў наступленне.
Я ўдзячны ёй, што памагла,
Прайсці праз турмы і праз краты,
Дала мне ў сэрца шмат цяпла,
Я песняй у жыцці багаты.
Праз ўсё жыццё яе нясу,
Не разлучуся з ёй ніколі.
Люблю ў ёй ўзнёслую красу
Аб барацьбе, аб шчаснай долі.
1976

**Балада пра Бяздоннае возера**

Між гор яно. Упадзінай глыбокай,
Як люстра светлае, блішчыць з далечыні.
Улетку ў ім там мыюцца аблокі,
І мноства хваль — пайдзі пералічы.
Легенды ходзяць сумныя ў народзе:
На месцы тым, дзе возера разліў,
Было мястэчка люднае такое
І ўсё пайшло наскрозь зямлі, ў прарыў.
Ў людской легендзе можа праўды сіла,
Стары тут могільнік пры беразе зусім.
І пліты на магілах ў моху сівым,
Ніхто не помніць стаўленыя кім.
У час вячэрні, як няма аблокаў,
Як сонца твар схіляе да зямлі,
Паглянь на возера. У тоні вод глыбокіх
Убачыш вуліцы ў мястэчку, як ішлі.
Уявіш мітуслівы клопат ранні,
Пачуеш песню, з поля ідучы.
І спраўдзіцца легенды той казанне, —
Усё, што людзі змогуць зберагчы.

1976

**Айчыне**

Маё натхненне — для цябе,
І ўвесь мой лёс з табою.
Жыццё, мінуласць ў барацьбе
Прайшлі, а не ў спакоі.
Шляхі этапныя, ланцуг
Наручнікаў сталёвых.
Што рукі ціснуў, як абцуг,
Па-панску, адмыслова.
Картуз-Бярозкая турма
Знявага панскіх здзекаў.
Не прамінулі так, дарма
Ў жыцці для чалавека.
Я рад, што вытрымаць сумеў,
Усе выпрабаванні.
Ў жыцці, на волі і ў турме,
Бо быў табе адданы.
І зараз крочу у прасцяг
Я радавым салдатам,
Нясу я волі родны сцяг,
Высока у гару узняты.

1976

**Адлёт жураўлёў**

Дагараў дзень асенні
У пажары рабін,
Рунь квітнела вакол маладая.
І стагнаў ў паднябессі
Жураўлёў востры клін,
Што у вырай ляцеў дужай стаяй.
Цяжка птушкам ляцець
У бязмежную даль,
Пакідаць тут сваё гнездаванне.
І таму ў тым курлыканні
Чуецца жаль
Апошніх хвілін развітання.
Што сустрэнуць яны
Ў пералёце цяжкім?
Толькі ім гэта будзе вядома…
І таму так маркотна
І самотліва ім
Адлятаць ад уласнага дома.
1978

## Сябрам па змаганню

Калі прыйдзе натхнення час,
Бяру я ў рукі сваю ліру.
Пад гоман струн успомню вас,
З кім маладосць праводзіў ў вырай.
А многіх з вас ў жывых няма,
Ды ўсё хвалююць успаміны.
Як супраць панскага ярма
Мы падкладалі разам міны.
Сябры мае, вас не забыць.
Ў жыцці гарэлі знічкай яркай,
Сярод мільгаючых зарніц,
Йдучы ў жыццё хадою шпаркай.

1979

**Фучыку**

Ён цвёрда верыў — прыйдзе Перамога,
Фашызм падзе, наступіць вольны дзень.
І смерць прыняў ў сырых мурах астрога
За свой народ і шчасце ўсіх людзей.
Ён рэпартаж пісаў з пятлёй на шыі,
Як журналіст, трывалаю рукой,
Каб разнясласся праўда шырай, шырай,
Пісаў яго уласнаю крывёй.
1979

**Я веру**

Я веру, будзе новы дзень
Здабыткамі шчаслівы,
Ў рабочай вопратцы ідзе
І крок яго імклівы.
Я веру шчыра у народ,
Што ў новым годзе гэтым
Упартым будзе наш народ
Да запаветнай мэты.

1981

**Раніцай**

Асвяціла небасхіл
Сонца ярка, ярка,
І плывуць ад ветру сіл
Беленькія хмаркі.
Заспяваў птушыны хор,
Быццам па загаду…
Ў неба ўзняўся жаўручок
На сваю эстраду.

1981

**Якубу Коласу**

Магутны, звонкі голас твой
Ляцеў да нас праз дрот кардону,
І узнімаў на цяжкі бой
Супраць паноў і іх закону.
Ён сілу ў сэрца нам уліў,
Каб смела мы ішлі ў змаганне.
І кожны верш нам прыбаўляў
І вытрымкі, і гартавання.
Нас не палохаў панскі суд,
Ні вісельні, ні катаванні,
Мы верылі нязломна ў цуд,
Дарог прайшоўшы скрыжаванні.
І нашы мары, нашы сны
Збыліся, ўрэшце сталі явай.
Мы дачакаліся вясны,
Як Беларусь стала дзяржавай.
1983

**Мае гады**

Мае гады ідуць на склон,
Няхай ідуць, няхай адходзяць.
Такі ў жыцці ужо закон:
Адных страчаць, другіх праводзіць.
Я толькі рады аднаму,
Што ўсё жыццё іду з народам.
І маладосць аддаў яму,
Змагаўся ўпарта за свабоду.
Я рады моцна, што у нас
Жыццё бурліць жывой крніцай…
І ў гэты ўзнёслы, творчы час
І мне ахвота весяліцца.
1983

**Таварышу па пяру**

Як добра мне з табой сустрэцца,
Пагаварыць, пажартаваць.
Пачуць, адкуль той сплаў бярэцца,
Каб сочна вершы напісаць.
Я знаю, перажыў ты многа
Бяды і гора, больш за ўсіх.
Твая жыццёвая дарога
На подзвіг кліча маладых.
Як добра, што жывеш, існуеш,
Што стаў нязломным змагаром.
І песні роднай голас чуеш
Над горадам і над сялом.
І сам уносіш ў песні тыя
Лірызму шмат і цеплыні,
Каб песні роднае матывы
За сэрца кожнаму ўзялі.
1984

**Ідзе вясна**

Адно слова — вясна!
Яе сіле дзіўлюся.
Бачыш — светлае сонца,
Сталі цёплыя дні.
Пасвятлелі прасторы
Маёй Беларусі,
Жыць усё пачынае,
Куды ні зірні.
Жаўрукі заспявалі
Цудоўныя песні.
Хутка таюць снягі
І цуркочуць, бягуць.
Воды ў рэчках бруяць,
Як заўжды напрадвесні,
Паўнаводна і шумна
Аб чымсьці пяюць.
Зелянее вярба,
А за ёю — бяроза,
Пакрываюцца беллю
Густой вішнякі.
І не страшны ужо
Ні вятры, ні марозы,
Вясна смела ступае
На ўсе бальшакі.

1985

***

Сняжок зямлю прыпарушыў,
І забялела наваколле.
А Новы год да нас спяшыць
Па снегам высланаму полю.
Глядзіць на ўсё гаспадаром,
Зрабіць яму так многа трэба,
Каб мірным быў наш кожны дом,
Каб ясна ўсім свяціла неба…
1985

***

Мне семдзесят сёння.
Я проста не веру,
Што столькі пражыў я
На свеце гадоў.
Што столькі шляхоў
Я падпольных прамерыў,
За родным народам
З юнацтва ішоў.
Радзіма давала мне
Натхненне і сілу
Ў змаганні з панамі
За светлы наш лёс.
І песні, і вершы
Пісаць навучыла,
Каб я іх у масы
Працоўныя нёс.

1987

## Люблю зімовы краявід

Люблю зімовы краявід
Як лес застыў у дымцы сіняй,
Дзе на галінах, нібы бінт,
Нібы бялее пух гусіны.
І дзеці цешацца зімой,
Мароз румяніць нос і шчокі.
Бягуць на лыжах грамадой,
Іх клічуць луг і лес далёкі...
1987

**Беларусі**

Ты прайшла ўсе шляхі, галавы не схіліла,
Не скарыў цябе пан, ні фашысцкі палон.
Ў найцяжэйшых баях ты іх сілу крушыла
І ніколі не йшла ты да іх на паклон.
Мужна вынесла ўсе на плячах ліхалецці...
І цяпер набіраеш магутны разгон.
Хай прасторы твае сонца мірна асвеціць
І найвышайшы плён дае кожны загон!
1988

**Пяе радок**

Набывае сілу слова
І гучыць мацней, мацней.
Я хачу пачаць нанова,
Што згубілася раней.
Набывае сілу слова,
Каб званчэй гучаў радок.
Не дазволю нашу мову
Адштурхоўваць, кідаць ўбок.
Набывае сілу слова,
Хай жыве, пяе радок.
Ты жыцця майго — аснова,
Беларускі мой куток!

1988

**Да моладзі**

Гэй ты, моладзь, шырэй крылы
Разгарні да ўзлёту.
Для старонкі нашай мілай
Не шкадуй работы.
І на нівах, на калгасных,
Больш вырошчвай хлеба.
Каб не ведаць дзён няшчасных —
Хлеб ўсім людзям трэба.
Смела к працы прыступай,
Ў працы ж плён, аснова…
Сілы, здольнасць аддавай
Для перабудовы!

1988

**Валянціну Таўлаю**

Сваю маладосць прысвяціў барацьбе —
Ты мужна ішоў на змаганне.
Таму мы падзяку прыносім табе,
Пашану, любоў і прызнанне.
Жыццё расквітнела — такое хацеў,
Набрала і сілы, і гарту.
За гэта жыццё ты у турмах сядзеў,
Пілуючы вершамі краты.
І верыў нязломны, што воля прыйдзе
На цёмныя нівы і гоні.
І трактар надзеі на іх загудзе,
І светлымі стануць загоны.
Шкада, што не бачыш ты сённяшніх дзён,
Бо рана сышоў у магілу,
Прымі ад нас нізкі зямляцкі паклон
За вершаў магутную сілу.
Няхай прабягаюць гады чарадой,
Твой подзвіг мы век не забудзем.
Ты ў вечнасць сышоў, як змагар і герой,
І памятным век будзеш людзям.

1988

## Роднай вёсцы Какошчычы

І зноў я тут
У роднай вёсцы,
Дзе маладосць
Мая прайшла.
Я пакланіцца
Рад бярозцы —
Надзеі роднага сяла.
Ідзе жыццё,
А я пытаю:
А дзе ж вы, дзе,
Мае сябры?..
З якімі разам
Босы з хаты
Я бегаў летам
Па грыбы.
Сяброў няма —
Сышлі са свету
У час апошняе вайны.
За вёску нашу,
За Радзіму
Тады змагаліся яны…
І толькі памяць
Захавала
Сяброў, равеснікаў
І блізкіх.
Я пакланіцца
Роднай вёсцы
Прыехаў сёння
Нізка-нізка.

1988

**На могілках**

Ўсё прыбывае тут магіл,
І свежа грунт ускопаны…
Кладуць тут тых, хто выйшаў з сіл,
Няўмольнай смерцю скошаны.
Ідуць гады, бягуць гады,
Ды так на свеце водзіцца —
Адных праводзім назаўжды,
А сотні зноў народзяцца.
І толькі памяць аб табе
Паміж людзей застанецца,
Калі ты аддаваў сябе
Для іх, для светлай раніцы.

1988

***

Я не лічу, што я паэт,
Я проста так, — з народа выйшаў,
Узяўшы ліру, рушыў ў свет
І па далінах, і па ўзвышшах…
1988

**Родная мова**

Мая мова такая, як ўсе,
На другую яе не змяняю.
Яна радасць у сэрца нясе —
І за гэта яе паважаю.
Мову нашу хацелі адняць,
Прымушалі, каб мы адракліся,
Каб пакінулі песні спяваць,
Што ў спадчыну нам засталіся.
Праз пакуты і цяжкі палон
Ты прайшла з намі, родная мова.
Вось за гэта прымі мой паклон,
Што квітнееш ты сёння нанова.

1989

**Для нашай Беларусі**

Не падай духам, хоць жыццё
Цябе выводзіць з раўнавагі.
Такое ў нас цяпер быццё,
Што патрабуе сіл, адвагі.
Трымай заўсёды вышыню!
І будзь нязломным у паходзе
За гонар наш і чысціню,
Якая век жыве ў народзе.
За сваю мову стой гарой,
Каб адрадзіць яе нанова,
Каб увайшла яна у строй
І стала век дзяржаўнай мовай.
Усё, што бачыш, чым жывеш,
Здабыў народ ў цяжкім змаганні,
І ты ўсё гэта беражэш —
Пакуль жыве ў грудзях дыханне.
Пакуль пульсуе ў жылах кроў,
Пакуль спяваю і смяюся.
Аддам ўсю працу і любоў
Для роднай нашай Беларусі.
1989

## Скарына

Праз ўсе цяжкія перашкоды
Патрапіў смела ён прайсці.
Каб быць у памяці народа,
Ў жыццё — друкарства увясці.
Мы ганарымся продкам дбайным,
Бо ён быў наш, ён — беларус.
І першы кнігадрукаваннем
Ён Белую праславіў Русь.
Няхай яго імя лунае,
Гарыць, як зорка сотні год.
Хай Беларусь яго ўслаўляе,
Бо ён вялікі, як народ!

1990

**Зімовы эцюд**

Сняжок цярушыць і цярушыць,
Накрыў ўсё поле і лугі.
Зіма прыроду зноў прымусіць
Ў свае заціснуць абцугі.
Ўсю ноч ад вечара да ранку
Вятры разгульныя гудуць,
Сваю спяваюць калыханку —
Спакою людзям не даюць.
Зіма заводзіць карагоды,
Растуць скрозь снежныя бугры.
Ёсць у яе такая мода —
Шмат людзям снегу падарыць.
1990

## Радкі

Радкі бываюць розныя:
Пявучыя, сур'ёзныя,
Слабыя і няўдалыя,
Сухія, занядбалыя…
Мне ж тыя падабаюцца,
Што з рыфмаю зліваюцца,
Душу загрэюць полымем,
Каб назаўжды запомніў я.

1990

## Роднаму Нёману

Не раз на беразе стаяў,
Глядзеў, як коціш свае воды…
Ў душы навек паабяцаў
Любіць цябе, як цуд прыроды.
І ты заўжды — ў маіх вачах,
Як рэчка родная, святая!
Мне сніцца часта па начах
Вада бурлівая такая…
Ты перарэзаў родны край
Шырокай стужкаю жывою,
З табой пабыць — ну проста рай,
Які ўстае перада мною.
Лясы на беразе шумяць
І не даюць усім спакою,
Ствалы іх у ваду глядзяць,
Расцвіўшы цёплаю вясною.
Краса ад зеляні лугоў
Пахучай хваляй набягае…
Таму мне хочацца ізноў
Пабачыць цуд роднага краю.
1990

## Прыгажосць

Схіліліся вербы над быстраю рэчкай,
Што ў цёмную далеч няспынна бяжыць.
А бераг бялее квітнеючай грэчкай
І далеч ад сонца спакойна дрыжыць.
Прыйшоў я на бераг, хачу падзівіцца,
Нацешыць свой позірк такім хараством.
А сонца з высокага неба глядзіцца,
Свой твар вымывае вадой-ручніком.
Я пах удыхаю прыгожага поля,
Што хвалямі ветрык да рэчкі нясе.
Здаецца, нічога не трэба мне болей —
Адно растварыцца у гэтай красе.
Жаўрук заліваецца песняй цудоўнай,
І цяжка ў блакіце яго адшукаць,
А рэчка бяжыць гэтак ціха і роўна,
Што нават кругоў на вадзе не відаць.
З любоўю гляджу на чароўнасць прыроды,
На радасць — яна расквітнела наўкол.
А пчолкі над рэчкай вядуць карагоды,
Збіраючы мёд там сабе у прыпол.
1991

**Паэт**

Пра родны край заўжды спяваў,
Палёў любіў ён пазалоту,
І да змагання заклікаў
Народ ісці супраць прыгнёту.
І верыў ён, што прыйдзе час:
Народ уздыме мужна голас,
І што свабода будзе ў нас,
Паспее ў полі жытні колас.
Усё, што думаў, аб чым сніў,
Збылося — стала яснай явай.
І Беларусь ў напале сіл
Жыць будзе вольнаю дзяржавай.
1991

**Адшумела навальніца**

Адшумела навальніца,
Не набраўшы свежых сіл…
Трэба нам усім маліцца,
Што мінуў крыві разліў.
Што прыціхла тая бура,
Што пагрозай ўсім была.
І мінулася віхура,
Што смяротнасць нам нясла.
Мы цяпер дружней ў работу,
Закачаўшы рукавы.
Не баяцца свайго поту,
Адстаяўшы ўсе правы…
Нам усім адна дарога —
Край наш мілы адстаяць,
Каб ля роднага парога
Не баяцца пастаяць.

1991

**Адказ**

*З народнага*

Ой у полі, ой у полі
Рабіна стаяла,
Рабіна стаяла
З ветрам размаўляла:
Скажы, скажы, ветрык мой,
Скажы, братка, мілы,
Дзе падзеўся муж Антосік
Ганны з вёскі Нівы.
У сорак першым ён прызваны
На службу ў салдаты…
Сэрца ные ў беднай Ганны,
Што не йдзе дахаты.
Гады хутка прабягаюць,
Плача маладзіца,
Людзі ходзяць, пацяшаюць
Бедную ўдавіцу.
Ціха ветрык прыпыніўся,
Даў адказ рабіне:
Твой Антось ўжо ажаніўся
На другой дзяўчыне…
1991

***

Ляжу, дагараю — апошнія дні…
Зямля… Ты хоць цела навекі прымі.
Здаецца, не быў я ў жыцці гультаём
І тым заслужыў на твой вечны прыём.
Хачу яшчэ трохі пабачыць, пажыць,
І вершы на памяць сябрам падарыць,
Бо там, калі лягу спачыць у зямлю,
Нічога, нічога сябрам не зраблю.
Намер у жыцці толькі маю адзін —
Любіць Беларусь, як верны твой сын.
1991

## Яго песням век звінец

*Янку Купалу*

Пра цябе не згіне слава,
Яна будзе вечна жыць.
Беларуская дзяржава
Будзе імем даражыць.
Палымяным, шчырым словам
Ты праславіў родны край,
І на роднай нашай мове
Да канца жыцця спяваў.
Твае песні засталіся
Для нашчадкаў на вякі,
І з народам так зліліся,
Сталі нам, як сваякі.
І да самае канчыны,
Колькі меў у сэрцы сіл,
Прысвяціў іх для Айчыны,
Для людзей, якіх любіў!

1992

**Мова**

Мая любоў да роднай мовы
З маленства да апошніх дзён
Не гасне, нібы шум дубровы,
Нібы царкоўны, вечны звон.
Я з роднай мовай цесна звязаны
Цудоўным слуцкім паяском,
І ёй, як маці, абавязаны
Сваім натхненнем і жыццём.
Прайшоў я з мовай праз пакуты,
Праз дзікі здзек былых паноў.
Не раз кайданамі быў скуты,
Не раз цярпеў боль бізуноў.
Але ад мовы не адрокся:
Я з ёю сеяў і касіў…
Сваю любоў да роднай мовы
Заўжды у сэрцы я насіў.

1992

## Раніца

Раніцаю цёплай
Сонейка ўстае,
Салавей над рэчкаю
Песенькі пяе.
Песня салаўіная
З рэчкаю зліваецца,
Раніца шчаслівая
Людзям усміхаецца.

1992

**Радзіме**

Сваю любоў
К табе, Радзіма,
Нашу я ў сэрцы
І ў душы.
Хоць вымераць
І немагчыма —
Табе пяю,
Табе пішу.
Гады бягуць —
Ты прыгажэеш
І набіраеш
Новых сіл,
Па цэлым свеце
Славу сееш
За мір і шчасце
На зямлі.
Я аддаю
Табе ўсе сілы,
Пакуль пульсуе
Ў жылах кроў.
І буду верны
Да магілы,
І за цябе —
На ўсё гатоў!

1992

## Крочыць песня па загонах

*Прысвячаю Анатолю Іверсу*

Дні з нястрыманым імпэтам —
Ты ж за імі наўздагон
Да вялікай крочыў мэты,
Несучы ў душы агонь.
І не кожны гэта знае,
Колькі стрэў ты перашкод
На шляху за вольнасць краю,
Шчыра верачы ў народ.
Ты гатовы быў да бою,
Не зважаў на гаркату.
Поруч я ішоў з табою —
Пацвярджаю гэта тут.
Колькі родных, блізкіх, любых
Звяло са свету "груганнё"!
І табе фашыст загубу
Найцяжэйшую нанёс...
Але мужнасці хапіла
Боль тых стратаў перажыць.
Хоць заўсёды сэрца ныла
Ў глыбіні твае душы.
Бацька, брат і жонка Вера
Не сустрэлі, іх няма...
Толькі вецер тузаў дзверы,
Па-над хатай плыў туман.
Ты ступіў на панадворак
З поўнай торбаю тугі.
А на ўсходзе браўся золак —
Пачынаўся дзень другі.
І цяпер я вельмі рады,
Што ты стойка перанёс
Ўсе жыццёвыя загады,
Што наконваў табе лёс.
Крочыць песня па загонах,
Па жыццёвай шырыні.
І звініць лірычным звонам,
Як жаўрук у вышыні.
Я жадаю тваёй песні,

Каб заўжды была такой.
Прадвяшчала нам прадвесні,
Несла радасць і спакой!
1992

## Дачакаўся вясны

Колькі вёснаў ў жыцці маім праплыло!
Ды ці ўспомніш тых вёснаў ўсе даты…
Помню тыя, што сонца зусім не было,
Толькі ў вокнах іржавыя краты.
І ў той памятны час сустракаў я вясну
З цвёрдай верай і радасцю ў сэрцы,
Бо будзіла яна ўсё ад зімняга сну
Нават нас, хто гібеў ў паняверцы.
І хацелася жыць для працоўных людзей,
Адагнаўшы прэч роспач і слёзы.
А ў лясах расцвіталі суніцы ярчэй
І цвілі ў свежых лісцях бярозы.
А вясна набірала штогод новых сіл
І паводкамі бурна кіпела.
Па радзіме ішла, дзе люд сеяў, касіў,
І нявесткай сама маладзела.
Мо таму дачакаўся я светлай вясны,
Яе радасці вольнай, кіпучай,
Аб якой за турэмнымі кратамі сніў,
Што прыйдзе яна к нам немінуча.
І таму ўсёй душою кахаю яе
З першых дзён і да самага сёння…
Люба слухаць, як шчыра, цудоўна пяе
Жаўручок нам на ўсё наваколле.
О, вясна! Ты ўздымай мае сілы ўгару
І натхняй мяне так, як ніколі.
Каб мог славіць, як сонца, сваю Беларусь
І прыход светлых дзён нашай волі!
1992

**Парушана памяць паэта**

*Паэту Гальяшу Леўчыку, які жыў у Слоніме на Чырвонаармейскай (былой 3 Мая) вуліцы ў сваёй невялікай хатцы*

І хатку знеслі,
Толькі грушка ў падвор'і
Квітнее, як ружа,
Аж дзівяцца ўсе.
А сэрца баліць,
Бо тут жыў непакорны,
Праўдзівы і шчыры
Паэт-беларус.
Хто руку прыклаў,
Каб зацьміць яго памяць,
Зацерці сляды,
Што ён жыў на зямлі.
І вершы пісаў
Гэтак спрытна і плаўна,
Пакуль не загінуў
У горле вайны.
Давай абгародзім
Хоць грушку на памяць!
Хай будзе яна нам,
Як сведка ты дзён.
Што жыў тут паэт
Гаваркі і рухавы,
І верыў, што воля
Прыйдзе ў кожны дом.

1993

**Не сумуй!**

Не сумуй, мой дружа,
Што стаў цяжкі час.
Што такая сцюжа
Ахінула нас.
Цяжкае на свеце
Доўга не жыве,
Сонца зноў засвеціць
Ў нашай старане.
Трэба мець надзею
І табе, і мне…
Вецер ўсё развее
І бяда міне…

1993
Анатоль ІВЕРС

**Фасоля**

*Памяці Алеся Сучка (Пятра Дабрыяна), слонімскага паэта*

Не хадзіў Пятро па розум
Да нябогі-батрака,
А прайшоў Картуз-Бярозу,
Каб свабоду сустракаць.
А свабода, як імгненне,
Зробіць пробліск – і няма.
Так на нашым пакаленні
Праляцеў нячутна май.
Вось у чэрвені гарматы
Страсянулі краявід.
Бот ступаў з нямецкім матам
Па нявіннай па крыві.
Ды падпольшчык не спужаўся,
Трэба зброю ў рукі браць.
І пайшоў, вінтоўку ўзяўшы,
Для народнага дабра.
Раз сядзеў на прызбе доўга,
Пазіраў на хвалі ніў.
І расказваў пра Міндоўга,
Крыжакоў які граміў.
Перамога. Але з бою
Не прыйшлі дадому ўсе.
З Пятрусём здавалі зброю,
Селянін браў плуг і серп.
Сустракаліся мы часта,
Партызаны-землякі.
А ў тых лозах вецер шастаў,
Дзе ляжалі ля ракі.
Вось і сёння так, як звыкла
Ў вачах – радасць-сінява.
Ды з кішэні штосьці выклаў
І фа-со-ля праспяваў.
А фасоліны, як дзеці
Ў розных колерах былі.
Змог ва ўбор такі адзець іх
Толькі казачнік былін.
Мы фасолю размнажаем

Пасля смерці земляка.
Сэрца сцягваецца жалем,
Што няма каго чакаць.
Прабягае сум па твару,
Як фасоліны нясу,
Суп фасолевы, як варым…
Прападзі нягоднік-сум!
Барацьба ж ідзе за мову –
Ён быў шчыры барацьбіт.
Бо варожыя замовы
Хочуць збіць людзей з арбіт.

1996

© Інтэрнэт-версія: Камунікат.org, 2012
© PDF: Камунікат.org, 2012

**Змест**

